Цана — Price 25 ¢

BIELARUS
401 ATLANTIC AVENUE
BROOKLYN 17
NEW YORK, N. Y.

# БЕЛАРУС

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER

ВЫДАЕ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІНОЧАНЬНЕ У ЗША.

ГОД XIII. № 73 | СТУДЗЕНЬ, 1962 | NEW YORK, N. Y., U.S.A. | JANUARY, 1962 | VOL. XIII. № 73

## БАНКРУЦТВА КАЛГАСНАЕ ГАСПАДАРКІ БССР

### ПАГРОЗА ГОЛАДУ У БЕЛАРУСІ

12 студзеня сёлета Хрушчоў пацьвердзіў лічбамі ведамы ўжо раней факт, што безаглядная эканамічная экспляатацыя Беларусі Масквою ды накіненыя Хрушчовым пляны калгаснага гаспадараньня, давялі земляробскую прадукцыю рэспублікі да банкруцтва. Хрушчоў у сваёй прамове ў Менску, сказанае да 1300 працаўнікоў сельскае гаспадаркі рэспублікі, падаў, што Беларуская ССР у 1961 г. магла даць усяго дзьве траціны спадзяванае колькасьці збожжа, на 20% менш ільнянога валакна, ды на 4 міліёны тон менш бульбы, што становіць абніжэньне на больш як траціну сярэдняе гадавое прадукцыі бульбы рэспублікі.

Катастрафальна нізкія зборы збожжа ды бульбы нішчаць усе пляны Хрушчова й Масквы ўзьняць жывёлагадоўлю й падвышыць мясную й малочную прадукцыю Беларускае ССР. У выніку, Масква не патрапіць выціснуць сабе зь Беларусі плянаваныя кантынгэнты загатовак. Продаж мяса дзяржаве ўжо ўпала на 20.000 тонаў. Адначасна, заміж абяцанага даўно партыйнаю прапагандаю й Хрушчовым дабрабыту, калгасьнікам давядзецца зазнаць яшчэ горшыя харчовыя недастаткі й магчыма, голад. Няўрода-ж лёну б'е моцна па тэкстыльнай прамысловасьці й прадукцыі вопраткі. А паколькі БССР дае 20% усяго ільнянога валакна СССР, дык спад прадукцыі рэспублікі будзе адчувацца ўва ўсім СССР.

Хрушчоў сьцьвердзіў таксама, што з прычыны нястачы корму, благога дагляду ды пошасьцяў, у БССР зьгінула 516.000 парасятаў і сьвіней. Каб ратаваць жывёлагадоўлю, Хрушчоў дамагаўся ад калгасьнікаў скарачэньня плошчы пад пасевы бульбы, а павялічэньне пад цукровыя буракі на корм жывёле. У гэтым вымаганьні яўны намер адабраць калгасьнікам магчымасьць дакармлівацца бульбаю ды збожжам, прызначанымі на корм для жывёлы. Буракі будуць заўсёды больш бясьпечныя перад галоднымі калгасьнікамі. Хрушчоў і ў гэтым выпадку рупіцца найперш аб долі калгаснае жывёлы, нядбаючы пра людзей.

Давяло да катастрафальнага спаду ўраджай Беларускае ССР колькі важных прычынаў савецка-маскоўскага гаспадараньня. Найперш, пасяўная плошча пад збажовыя культуры ды бульбу была значна абрэзаная ў выніку пасеваў накіненай Хрушчовым, а няпрыстасаванай да кліматычных умоваў Беларусі, кукурузы. Ураджайнасьць грунтоў падае й пасяўная плошча корчыцца, бо палі дзірванеюць таксама й з прычыны нястачы працоўных рук ды патрэбнае земляробскае снасьці для належнага ўрабляньня зямлі. Бальшыню прадукаванае ў рэспубліцы земляробскае снасьці, — машыны й трактары — Масква забірае заўсёды сабе, ці вывозіць іх у іншыя краіны імпэрыі, або за межы СССР на экспарт. Нястача-ж працоўнае сілы выкліканая Масквою штучна сталымі масавымі дэпартацыямі жыхарства Беларусі ў Сібір ды Казахстан. У сваёй прамове Хрушчоў нічога не сказаў пра тое, што дэпартацыі гэтыя будуць нарэшце спыненыя, але, наадварот, раіў выходзіць зь цяжкога палажэньня пасыланьнем на працу людзей свайго веку (67 год) і старэйшых.

Ураджайнасьць грунтоў падае яшчэ й у выніку недахопу ўгнаеньняў. Хоць у Беларусі ёсьць вялізарныя паклады мінэральных угнаеньняў, якія шырака эксплятуюцца, аднак-жа бальшыню й гэтае прадукцыі Масква забірае сабе, кіруе ў Казахстан ды іншыя краі свае імпэрыі, пакідаючы толькі невялікую частку для патрэбаў Беларусі.

Галоўная-ж прычына банкруцтва савецкае сыстэмы земляробскага гаспадараньня — поўная апатыя да ўсякае працы й сталы пасыўны апор калгасьнікаў Беларусі з прычыны мізэрнае платы за прыгонныя калгасныя працадні, хранічнага недахопу тавароў першае патрэбы, ды сталае загрозы прымусовае дэпартацыі на Сібірскую цаліну.

За даведзеную да поўнае руіны земляробскую гаспадарку Беларусі Хрушчоў вінаваціў у сваёй прамове ўсё й усіх, ды не спамянуў ён толькі запраўдныя прычыны й галоўных вінавайцаў: каляніяльную экспляатацыю Масквы, прыгонны савецкі калгасны лад і — самога сябе.

## ПРАМОВА ПРЭЗЫДЭНТА КЭНЭДЫ У КАНГРЭСЕ ЗША

У сваей прамове ў Кангрэсе ЗША 11-га студзеня 1962 г., Прэзыдэнт Кэнэды, між іншым, сказаў, што: „У замежнай палітыцы нашай асноўнай мэтай застаецца й надалей мірная сусьветная сям'я вольных і незалежных гаспадарстваў, што маюць вольны выбар собскае палітычнае сыстэмы ды собскае будучыні, паколькі гэта ня будзе пагражаць свабодзе іншым. Мы сулім, — сказаў Прэзыдэнт, — сьвет вольнага выбару, а камуністыя суляць — сьвет прымусу. Мінуўшчына-ж паказвае ясна, што свабода, а ня прымус узносяць сьвет на хвалі будучыні".

У гэтай сваей справаздачнай прамове Прэзыдэнт прысьвяціў шмат увагі й нутраным справам, кажучы, што " . . . калі мы не патрапім зьдейсьніць свае ідэалы ў сябе ўхаце, дык ня можам спадзявацца, каб прынялі іх іншыя".

Прэзыдэнт прыгадаў і новыя пляны: ходаньне зь няпісьменнасьцай дарослых (аднэй з прычынаў беспрацоўя), зьмены падаткавае сыстэмы, зьмены ў земляробскіх законах, у ахове здароўя ды інш.

Прэзыдэнт падаў гэтаксама Кангрэсу праект 5-годнага „Акту пашырэньня гандлю", які мае за мэту паступова панізіць мыта і ў ЗША і ў краінах Эўрапэйскага „Агульнага рынку" на тыя тавары, якія вырабляюцца пераважна ў Амэрыцы ці Заходняй Эўропе.

Кагадзе атрыманая вестка, што ў Брусэлі асягненая згода паміж усімі краінамі Эўрапэйскага „Агульнага рынку", якая робіць магчымым падпісаньне новага пагадненьня між ЗША й краінамі „Агульнага рынку" аб зьніжэньні мыта на тавары на 20%. Як ведама, да краінаў „Агульнага рынку" належаць Зах. Нямяччына, Францыя, Італія, Галяндыя, Бэльгія й Люксэмбург. Цяпер, калі між сябрамі „Агульнага рынку" асягненая поўная згода, да яго, пэўне,далучыцца й Ангельшчына.

## ПАМЕР Я. ГАПАНОВІЧ

Нас паведамляюць, што 20 травеня мінулага году ў Варшаве памёр сэньёр варшаўскае беларускае калёніі сьв. пам. Язэп Гапановіч.

Я. Гапановіча добра ведала ці адно пакаленьне беларусаў, што воляю лёсу траплялі ў Варшаву. Ён ветліва спатыкаў усіх, даваў парады і шмат чым дапамагаў.

Няхай лёгкай будзе яму варшаўская зямля!

## СТАРШЫНЯ РАДЫ БНР У НЮ-ЕРКУ

У сераду 10-га студзеня 1962 г., у Ню-Ёрк прыбыў на параплаве „ЮнайтэдСтэйтс" Старшыня Рады БНР, інж. Мікола Абрамчык.

Як даведваемся, сп. Прэзыдэнт мае намер быць тутка да паловы сакавіка й наведаць усе большыя беларускія асяродкі ЗША й Канады.

## КРЫВАДУШНЫМ АБАРОНЦАМ МОВЫ

Маскве мала [illegible]ых міліёнаў беларускіх нявольнікаў, якіх заграбла яна ў сваё прыгоннае царства ды развалаквае сяньня па імпэрыі на катаржныя працы ў саўгасах Казахстану ці Сібіру. Карціць яе заманўць да сябе яшчэ й беларусоў вольнага сьвету, каб прымусіць і іх адбываць катаржную службу. Вось таму для прапаганды сярод эміграцыі Масква не шкадуе ані часу, ані грошы. Гадамі ўжо вядуцца адмысловыя радыёвыя перадачы пабеларуску для эмігрантаў. Для іх-жа выдаецца й няпрошана дармова рассылаецца й вульгарная газэціна „Голас", які, каб прыхаваць ягоныя партыйныя маскоўскія канцы, названы голасам „радзімы".

Ды вынікі ўсіх гэтых настырлівых завіханьняў каля душы беларускага эміграната — горш чым мізэрныя. Адзін-другі з эмігрантаў старых, нясьведамы запраўднага палажэньня на бацькаўшчыне, мо' й даўся ашукаць. Але гэта й усё. Вось каб нейк бліжэй падыйсьці да беларускага эміграната, каб убіцца ў ягоную ласку й давер, рэдактары беларускага „па форме" маскоўскага „Голасу" кінуліся на спосаб асаблівы: яны пачалі зьмяшчаць чорнасоценныя лісты - нападкі на беларускую мову. Самі-ж рэдактары выступілі нібы ў яе абароне, зь яўным намерам пафарсіць перад беларусамі вольнага сьвету: „Бачыце, якія мы шчырыя патрыёты!".

Тактыка надта-ж прымітыўная, разьлічаная на нясьведамых справы. Такіх, якія-б ня зналі, як Масква ў запраўднасьці „шануе" беларускую мову, на эміграцыі хіба із сьвечкаю шукаць. Кажнаму-ж ведама, якая бессаромная русыфікацыя ад год шалее ў Беларускай ССР. У вышэйшых навуковых і навучальных установах Беларусі беларускую мову ўжо блізу усюдых Масква падмяніла расейскаю. Тое-ж цяпер праводзіць яна і ў сярэднім ды пачаткавым школьніцтве. Ідзе адначасна й русыфікацыя друку, прэсы, усяго культурнага й палітычна-дзяржаўнага жыцьця рэспублікі.

Нават і сэсіі найвышэйшае дзяржаўнае ўстановы, „савету БССР", які мае раўняцца парлямэнту ў дэмакратычным ладзе, — у рэспубліцы, у якой больш 80% жыхароў беларусы, праводзяцца не на мове народу, намінальнага гаспадара рэспублікі, а на мове каляніяльнае адміністрацыі гэтае рэспублікі — мове расейскай. Вось гэткая павага й пашана беларускай мове сяньня у самой Беларусі пад вялікадзяржаўным маскоўскім ботам.

Дык няма што пісакам „Голасу" лішня марнаваць свае агітпропаўскія таленты на стэрыльную дыскусыю з дажываючымі ўжо свой старэчы век і нікому непагрозьлівымі эміграцкімі чорнасоценцамі ці рэнэгатамі, на якіх існаваньне й зьвягу й так ніхто не зьвяртае аніякое ўвагі, за выняткам „нацыянальна блізкога" ім „Голасу". Рэдактары газэціны куды больш пераконліва выявілі-б патрыятызм, калі-б вось яны выступілі супроць гвалтоўнае русыфікацыі ды сьпіханьня беларускае мовы да ролі мясцовага калгаснага дыялекту ў беларускай-жа й „незалежнай", і „суврэннай" дзяржаве — БССР!

Уся цырковая гульня ў „патрыётаў" — толькі лішня змарнаваныя працадні пісакаў „Голасу". Эміграцыя беларуская й так добра ведае, што служаць яны не беларускаму народу, а вялікадзяржаўніцкай Маскве. А асабліва не павераць ім

(Канец на 2 бач.)

### ПАДЗЯКА

**Галоўная Управа БАЗА й рэдкалегія газэты „Беларус" выказваюць шчырую падзяку Акруговай Управе БАЗА Ню-Ёрк за аплату выданьня гэтага, 73-га нумару „Беларуса", у суме 200 даляраў.**

**Гэты прыгожы чын Акруговае Управы БАЗА хай-жа будзе прыкладам і для аддзелаў БАЗА й для іншых беларускіх арганізацыяў.**

BIELARUS
Byelorussian newspaper published by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
National Headquarters
401 Atlantic Avenue
Brooklyn 17, New York, USA. — Tel.: MAin 5-9352.

БЕЛАРУС — Беларуская газэта ў Амэрыцы
Рэдагуе Калегія. Падпіска зь перасылкаю 4.00 дал. на год.

# НА ПАРОЗЕ 1962 ГОДУ

Новы год беларуская эміграцыя вольнага сьвету сустракае зь немалымі дасягненьнямі за сабою, ды разам і зь яшчэ большымі патрэбамі й заданьнямі наперадзе.

Для належнае ацэны вялічыні й вагі праробленае новаю беларускаю эміграцыяй працы адно ў ЗША, трэба ўсьведаміць сабе факт, што пачынаць усё даводзілася зь нічога. Нашая старая эканамічная эміграцыя, хоць лічбова й вялікая, але нацыянальна нясьведамая, без асьветы, не стварыла й не пакінула ніякіх гатовых арганізацыйных хвормаў культурна - нацыянальнага, гаспадарчага й рэлігійнага беларускага жыцьця.

Як-бы карыснаю яна не паказалася для самое Амэрыкі сваім першаякасным людзкім матар'ялам, з нацыянальнага гледішча была яна толькі бязвольнаю этнічнаю масаю, на якой жыравалі чужыя, галоўна расейскія й польскія, палітыкі й арганізацыі. Сяньня, ужо, ў працэсе свайго натуральнага выміраньня, старая эміграцыя адыйходзіць з жыцьцёвае арэны ў поўнае забыцьцё, бо ня здолела пакінуць па сабе нейкага памятніка - спадчыны свайго існаваньня й свае нацыянальнае дзейнасьці.

Новая эміграцыя, малая лікам, але сьведамая сваіх нацыянальна - палітычных мэтаў, не спалохалася вялічыні й вагі свайго гістарычнага заданьня, і таму за кароткі ўжо час здолела стварыць патрэбныя арганізацыйныя хвормы, ды патрапіла сьведамасьць і веду аб існаваньні Беларусі, беларускага народу й яго нацыянальна-вызвольнага змаганьня данесьці ў самыя вярхі амэрыканскіх палітычна-дзяржаўных кругоў.

Ясна ўжо сяньня, што нават толькі дагэтуляшняю працаю новая эміграцыя сваё гістарычнае існаваньне апраўдала. Сьветчыць пра гэта й крэшчэндо вульгарных напаткаў на яе бальшавіцкае Масквы праз прэсу й радыё БССР, ды адмыслова для эмігрантаў выдаваныя газэціны й друкі.

Масква выразна вядзе наступ на беларускую эміграцыю з мэтаю яе дэзарганізаваць, маральна й палітычна зламаць, ды ў канцы ліквідаваць шляхам перавозу ў СССР. Гэта найлепшы довад таго, што дзейнасьць эміграцыі сяньня асабліва моцна трывожыць маскоўскага акупанта беларускае зямлі. Найлепшы адказ на гэты наступ — узмацняць далей палітычна-грамадзкую актыўнасьць кансалідацыяй і каардынацыяй сваіх сілаў ды ліквідацыяй самаедных нутраных палітычных, груповых, рэлігійных і асабістых сварак.

# КРЫВАДУШНЫМ АБАРОНЦАМ МОВЫ

амэрыканскія беларусы, якім ня трэба й у БССР ехаць, ані нават чытаць тамашнюю прэсу, каб наглядна пабачыць „пашану" Масквы да мовы беларускага народу. Прыклады гэтага „жывыя" ходзяць тут, па Амэрыцы.

Гадамі вось ужо блытаецца па Ню Ёрку „таварышч Александр Раманавіч Сітнікоў", — шышка не малая, бо сакратар дэлегацыі БССР пры Задзіночаных Нацыях. Сам Сітнікаў цьвердзіць, што ён па нацыянальнасьці беларус, хоць пабеларуску — ні бэ, ні мэ. Ён — прыклад таго, як бальшавіцкая Масква сваім гадунцом „із інародцаў" спачатку выразае іх родны язык (пэўне-ж, разам і з душою), і толькі тады як янічараў вязе на паказ за мяжу, — пагуляць на службовым ланцужку МГВ у „беларускага дыплямату".

З прычыны свайго абязьвечаньня роднай мовай „дыплямат" вось гэты трапляе ня раз і ў зусім недыплихматычнае палажэньне. Калі раз у прыватнай гутарцы із Сітнікавым амэрыканцы дазналіся, што ён рэпрэзэнтуе ў ЗН народ, мовую якога й гутарыць ня ўмее, дык вызалі вялікае зьдзіўленьне. Для іх гэта была такая-ж неспадзеўка й сэнсацыя, — казалі яны, — як, для прыкладу, каб гішпанскі дэлегат раптам прызнаўся, што ён умее гаварыць паангельску, але не пагішпанску. Зьбянтэжаны Сітнікаў стаў бараніцца, што ў дэлегацыі ён гэткі не адзін, а такія там блізу ўсе, ды што гэта хутка будзе папраўлена, бо вось сам старшыня дэлегацыі, „товарищ Грязнов" пачаў ужо браць лекцыі беларускае мовы!

Вось гэткую вялікадзяржаўную „павагу" Масквы да мовы беларускага народу „Голас радзімы" й намагаецца прыхаваць перад эмігрантамі крывадушнай чорнасоценнай „дыскусіяй" пра мову. На вінаватым заўсёды „шапка гарыць".

*Я. М.*

## ПАДЗЯКА

**Акруговая Управа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Ню Ёрку складае шчырую падзяку ніжэй паданым асобам, што дапамаглі ў арганізацыі сустрэчы Новага 1962-га году: Натальля Кушаль, Яніна Каханоўская, Поля Клінцэвіч, Пётра й Вера Зыбайлы, Вера й Францішак Бартулі, Ольга й Пётра Правілы, Ганна й Кастусь Мярлякі, Казя й Васіль Юрцэвічы, Джоан й Вячаслаў Станкевічы, Антон Шукелойць, Аляксандра Міцкевіч, Янка Ніхаёнак, Ніна, Аркадзь і Павал Кавалі, Фёдар Хаміцэвіч, Янка Казьлякоўскі, Ольга Мельяновіч, Тацяна Каралевіч, Ганна Мельяновіч.**

**Старшыня Акругі БАЗА Ню Ёрк**
**Д. Клінцэвіч.**

## ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ

Акруговая Управа БАЗА ў Ню-Ёрку паведамляе сваіх сяброў ды Беларусаў Ню-Ёрку й ваколіцаў, што пры БАЗА арганізуецца ЦЭНТАР АХОВЫ ЗДАРОЎЯ, заданьнем якога будзе сыстэматычны штогадовы мэдычны агляд зацікаўленых Беларусаў.

Кіраўніком Цэнтру Аховы Здароўя будзе др. Ул. Набагез. Асыставаць яму будуць сп-ні Н. Рагуля й М. Казьлякоўская, да якое й просіцца зьвяртацца дзеля запісу на чаргу.

Агляды пачнуцца першага лютага сёлета й будуць праводзіцца што чацьвер, ад гадз. 7 да 9 увечары ў памешканьні БАЗА на 401 Атлянтык эвэню ў Брукліне.

Сябры БАЗА плацяць за агляд усяго адзін даляр, дзеці 50 цэнтаў. Не сябры — падвойна.

Беларусы, што жадаюць прайсьці лекарскі агляд у чацьвер 1-га лютага, павінны неадкладна зарэгістравацца ў сакратара Акругі БАЗА.

## ВЫЙШЛІ З ДРУКУ

■ Чародны, 14-ы нумар рэлігійна-грамадзкага часапісу праваслаўных беларусаў „Голас Царквы", выдаваны ў Ню-Ёрку,
*108 Wyckoff Street,*
*Brooklyn 1, N. Y.*
На зьмест часапісу складаюцца: Калядное Архіпастырскае пасланьне, Наш час, Новы Амэрыканскі закон для БАПЦ, апавяданьне „Ласка дзіцятка", Усеправаслаўная канфэрэнцыя на Радосе ды хроніка царкоўнага жыцьця.

■ № 23 каталіцкага часапісу „Сяўбіт" за лістапад - сьнежань, выдаванага а. Ф. Чарняўскім у
*58 Grove Street*
*Amsterdam, N. Y.*
На зьмест часапісу скляліся: Калядное прывітаньне й шэраг артыкулаў ды гутаркаў на рэлігійна-грамадзкія тэмы.

■ **Беларуская Моладзь** — № 12 за кастрычнік-сьнежань 1961 г. бач. 24.
Зьмест часапісу багаты й цікавы.
Адрыс рэдакцыі: 401 Атлянтык Авэ. Бруклін 17, Н. Ёрк.

■ *Losik, Anton.* Bielaruski Pravapis. Miensk, 1943.
Правапіс беларускай лацінкі. Перавыданьне фотадрукам.
Выд. а. Ф. Чарняўскі. Цана 1 дал. Набыць можна ў рэдакцыі „Сяўбіт".

# ПЕРАСТУПІЎШЫ ПАРОГ НОВАГА ГОДУ

Стары 1961 год, зь якім мы ўчора разьвіталіся, не адразу старым да нас прыйшоў. Помню, калі 1960 год, ледзь ногі перастаўляючы, адыйходзіў у даўніну, дык 1961-ы, хоць скочыў праз парог падзіцячаму, але гуку нарабіў, вядома — маладосьць! Як і ў іншых мясьцінах, дзе яго сустракалі, гэтак і ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Нью-Ёрку, людзі паднавіліся адразу, калі Новы год зьявіўся. З музыкай, гукам, трэскам, з прывітаньнямі й вясёлым гоманам узьняліся прысутныя напярэймы новаму гаспадару. Надзея, як і штораз у гэткіх абставінах, зырлкімі колярамі ўквяціла й людзей і залю: кветкі, папяровыя шапкі, блiскучыя дэкарацыі, істужкі, сьмех ды гоман, — выявілі яе навочна й бяз сумліву.

Пасьля падлікаў таго, што мінула, нашая грамада занялася перш за ўсё плянамі, новымі плянамі. Гэтыя пляны яшчэ толькі пачалі засейвацца і ў галовах кіраўнікоў нашых арганізацыяў, і ў галовах новага Беларуса - Амэрыканца нагул.

У міжчасе, праваслаўныя сьвяткавалі Каляды, моладзь сустракала стары Новы год, дзеці віталі Дзеда-Мароза, а ўсе разам — шукалі правесьці добра час пры нагодзе. Першы паўмесяц гэтак і пракаціўся ў нагодах ды . . . мроях.

Доўга, аднак, пры мроях заставацца было нельга, трэба было іх праводзіць у жыцьцё. Арганізаваныя адзінкі пачалі гэта рабіць... паседжаньнямі. Тыя, што хацелі зарабіць у касу лішні грош, узяліся за забавы, „аладкі", вечарыны. Іншыя, каму на шыю арганізацыя „вытычныя" ўзваліла, сядзелі ды ламалі галовы, як вытхнуцца із імі. Словам — кажны сабе. Адзіная рэч, дзе ўсе разам былі патрэбныя — гэта 25 Сакавік. Давялося-ткі папацець, каб з гэтай імпрэзай справіцца.

Аб асабістых удачах цяжэй гаварыць, бо й хто каго ведае, як ён свае пляны „выяўляў", каб зь імі, гатовенькімі, у новы год уступіць. Аднак, сёе-тое ведамым сталася. Прыкладам, адным з найбольш дэманстрацыйных выступленьняў мінулага году было, што нехта А. гвалтам пакінуў базу й сеў на сваёй базе. Прычынаю, як кажуць, паслужыў іншы А., гаворачы батанічнымі тэрмінамі, А. зь сямейкі расьцінаў „коласавых". ...эвіч часьцей пачаў наракаць на сваю „страху" — відаць, зьявілася магчымасьць дастаць грошы, каб купіць новы „Мэркуры". Р. пачаў думаць пра новую, собскую хату. З. — гэтаксама пра хату. На старым месцы яму, як быццам, жыцьцёвае прасторы (лебенсраўму) не ставала. Б. — ўзяўся часьцей за Нью-Ёрк выяжджаць, а чаго? — цяжка сказаць, мусіць жаніцца ўздумаў. Тыя думалі сына жаніць. Іншыя— дачку замуж аддаваць. А ладны статак старых кавалераў, „дзяцюкоў" — адно бэсьціў пры кажнай нагодзе свой лёс, папіваючы чаркаю.

Мясаед вызначыўся параю вечарынаў ды запусьціўся „аладкамі". „Ага, што да вечарынаў. На іх завёўся няўпрыцям сгогі „рахунковы" этыкет. Калі на вечарыне, ладжанай, скажам, аднэю часткаю грамадства было зь іншае часткі ўсяго 5 асобаў, дык на вечарыну, ладжаную гэтаю іншаю часткаю, прыходзіла гэтаксама адно 5 асобаў, ня больш, зь першае часткі, хоць мо' каму й хацелася пагуляць, аж плакаў! За ўсім гэтым ня згледзеліся, як на носе ўжо быў і сакавік. „Начальства" загадзя нюхалася з найбольшымі рыбамі ў Амэрыцы, каб іх як-небудзь прынадзіць у Білтмор гатэль на 25-га. І праўда, калі гэты дзень надыйшоў, у гатэлі, побач із нашымі келбамі ды плоткамі, выплылі й заакіянскія сарты рослае рыбы. „Начальства" цешылася: яно й адчыняла імпрэзу й вяло яе й зачыняла. Адно, ці ўдалося яму якую рыбіну пасьлей на кухню даставіць — няма ведама (яно, праўда, хвалілася, што ўжо й патэльня грэлася). Але ўдача была.

Пасьля спалучанага із Сакавіком рыбнага базару, пачалася вясна. У гэтую пару тутка, на Пятай эвэню прыймаецца ляяльнасьць. Нашыя яе штогод здавалі. Але гэтым разам здалі ня ўсе: хто першы дабег — здаў, а тыя, што трохі (гэтак на гадзінку) спазьніліся, разьлічаючы на спазьненьне іншых, дык толькі страцілі свае 30 цэнтаў на „за дарогу". Але — ня бяда: ўсе спаткаліся зараз-жа на вясельлі ў К. (мэ-э). І там дык ужо ўсе былі ляяльныя: ад пачатку да канца. Ня толькі пры пачосцы, але й як маладую пару дарылі, бо-ж сам маладых — ўжо ведамы ў Амэрыцы, на хвалях эфіру, як кажуць, лунаў, а хто-ж яго знае, да чаго ён яшчэ дарасьце ў будучыні!

З прыходам травэня пацяплела на дварэ. Пагарачала й нашая грамада. Набліжалася важная падзея — 9-ты Кангрэс БАЗА. Галоўная Управа раз-па-разе „па-

